*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 13 (749)** **29 САКАВІКА 2006 г.**


## Медыкі павінны ведаць родную мову

*Сп. П. І. Беспальчуку*
*Рэктару Беларускага Дзяржаўнага Медычнага Універсітэта*

*220116, г.Мінск,*
*пр. Дзяржынскага, 83, БДМУ*

**Паважаны Павел Іванавіч!**

Мы вельмі заклапочаны той сітуацыяй, якая склалася зараз з выкарыстаннем дзяржаўнай беларускай мовы ў сістэме аховы здароўя нашай краіны. Большасць медычных работнікаў, нягледзячы на беларускае грамадзянства, не ведаюць добра беларускай мовы і не карыстаюцца ёй у сваёй практыцы. Тлумачыцца гэта перадусім тым, што пераважная большасць прадметаў у вышэйшых і сярэдніх медычных навучальных установах Беларусі выкладаецца па-руску. Больш таго, савет рэктараў прапанаваў вывесці беларускую мову (прафесійную лексіку) з пераліку абавязковых для вывучэння прадметаў у негуманітарных ВНУ.

Мы спадзяемся, што, дзякуючы Вашай прынцыповай пазіцыі, беларуская мова застанецца абавязковым прадметам у вашай ВНУ, а колькасць прадметаў, якія выкладаюцца ў ёй па-беларуску, з 1-га верасня павялічыцца.

Мы верым, што прыклад адносін да роднай мовы, паказаны першым доктарам медыцыны, славутым Францішкам Скарынам, з Вашай дапамогай будзе пераняты студэнтамі, аспірантамі і выкладчыкамі Вашага універсітэта. Такая Ваша пазіцыя будзе цалкам адпавядаць зместу наступнага выказвання кіраўніка нашай дзяржавы: "На Беларусі ніколі не перасохнуць крыніцы народнай мудрасці, таленту, любові да роднай мовы, культуры і традыцый Бацькаўшчыны".

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі
"Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт"
пр. Дзяржынскага, 83, 220116, г. Мінск
тэл. (017) 272-61-96, факс: 272-61-97;
e-mail: msmi@msmi.minsk.by, bsmu@bsmu.by
Разліковыя рахункі: 3620000000150, 3622000000145 філіял 500
МУ АСБ «Беларусбанк» г. Мінск, ПФА 153001601, код 601
УНН 100582412, АКПБ 02017507



Министерство здравоохранения Республики Беларусь
Учреждение образования
"Белорусский государственный медицинский университет"
пр. Дзержинского, 83, 220116, г. Минск
тел. (017) 272-61-96, факс: 272-61-97;
e-mail: msmi@msmi.minsk.by, bsmu@bsmu.by
Расчётные счета: 3620000000150, 3622000000145 филиал 500
МУ АСБ «Беларусбанк» г. Минск, МФО 153001601, код 601
УНН 100582412, ОКПО 02017507

17.03.06 № 04/675
На № 22 ад 14.03.2006

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Трусаву А.А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Нагадваю Вам аб тым, што ўсе студэнты Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта яшчэ ў школе атрымалі адпаведную падрыхтоўку па беларускай мове. Аб гэтым сведчаць добрыя і выдатныя адзнакі па названай дысцыпліне ў іх школьных атэстатах.

Нягледзячы на гэта, усе нашы студэнты маюць магчымасць працягваць вывучэнне беларускай мовы ў аб'ёме 60 гадзін у год. Для гэтага ва універсітэце ёсць неабходная літаратура, кваліфікаваныя выкладчыкі. Яны таксама могуць навучацца па-беларуску пры ўмовах напаўнення вучэбнай групы не меней чым 13-15 чалавек. Аднак стварыць такія групы вельмі складана і, нягледзячы на захады адміністрацыі ў гэтым накірунку, столькі студэнтаў не набіраецца ўжо на працягу трох гадоў.

**Рэктар універсітэта П. І. Беспальчук.**

## 75 гадоў Аляксею Пяткевічу

30 сакавіка спаўняецца 75 гадоў **Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу**, прафесару кафедры беларускай культуры, сябру Саюза беларускіх пісьменнікаў, выдатнаму навукоўцу і актывісту грамадскага жыцця.

Нарадзіўся 30 сакавіка 1931 г. у мястэчку Новы Свержань Стаўпецкага раёна, Менскай вобласці.

Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ (1954), аспірантуру (1957).

Кандыдат філалагічных навук. Тэма дысертацыі "Псіхалагічны аналіз і праблема характару ў прозе К.Чорнага".

У Гародні працуе з 1957 г. Прафесар кафедры беларускай культуры Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Я.Купалы. Быў адным з ініцыятараў і актыўным змагаром за наданне ВНУ імя гэтага выдатнага класіка беларускай літаратуры, стварэння кафедры беларускай культуры.

Сябра Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з 1989 г. Старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ. Сябра Гарадзенскага гарадскога аддзялення гарадскога грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай школы.



Выступае як крытык і літаратуразнаўца з 1958 г. Вядомы і слынны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння. Руплівец культуры Гарадзеншчыны. Вядомы краязнаўца.

## *Такой асобай трэба ганарыцца!*

**Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч выдатна ведае праблемы роднай мовы. Сваё жыццё прысвяціў падрыхтоўцы педагагічных кадраў. Літаратурнай крытыкай і літаратуразнаўствам прафесійна займаецца з 1958 года. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Асноўная тэматыка навуковых работ – гісторыя беларускай літаратуры, творчасці сучасных пісьменнікаў, ідэі асветніцтва ў беларускай літаратуры, рэгіянальныя аспекты культуры.

Першая кніга мела назву "Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі" (1966). Неўзабаве пабачыў свет чарговы твор "Сцежкамі роднага краю: Наднёманскія былі" (1968). Глыбокае прачытанне спадчыны Кузьмы Чорнага дало магчымасць выдаць зборнік "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага" (1981). У апошнія гады надрукаваны творы "Літаратурная Гродзеншчына" (1997), "Людзі культуры з Гродзеншчыны" (2000), "Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне" (2002).

Аляксей Міхайлавіч актыўна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы навучальных і акадэмічных выданняў ("Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры", "Гісторыя беларускай літаратуры. XIX – пачатак XX стагоддзя". Застаюцца актуальнымі артыкулы пісьменніка "Драматургія. Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры", "Якуб Колас", "Думкі пра структуру рамана") і інш.

Папулярызацыі беларускага слова служаць шматлікія артыкулы Аляксея Міхайлавіча ў друку. Ён адгукаецца на важнейшыя літаратурныя падзеі, гаворыць пра неабходнасць памятаць рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў даваеннага часу. Творы таленавітых людзей таго часу павінны друкавацца, станавіцца набыткам чытачоў. Гэтым захавае́цца сувязь сучаснага і мінулага.

Ён не быў бы сам сабою, калі б не вывучаў працэс літаратурнага развіцця роднага краю. Свае даследаванні выклаў у публікацыях "Рукапісныя кнігі на Гродзеншчыне ў XIV-XV-м ст.", "Рэгіянальныя асаблівасці культуры Гродзеншчыны", "Партрэты беластоцкіх пісьменнікаў", "Асветніцкі кірунак творчай дзейнасці С. Яновіча"...

Шматлікія вечарыны, прэзентацыі кніг, сустрэчы з пісьменнікамі – усё гэтыя мерапрыемствы не застаюцца без яго ўвагі. Аляксея Міхайлавіча шчыра запрашаюць выказаць сваё меркаванне. Да яго слова прыслухоўваюцца.

Па прызванні ён грамадскі лідар. Абіраўся дэпутатам абласнога Савета (1990 – 1996). Быў першым старшынём гарадской ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны", якое ўзначальвае звыш 10 гадоў з невялікім перапынкам, сталы сябар рэдкалегіі газеты ТБМ "Наша слова".

Ён з болем успрымае спробы выштурхнуць родную мову з шырокага ўжытку. Але пісьменнік застаецца спакойным і філасофскі разважным. Матчына мова неадназова перажывала выпрабаванні. Сцерліся з памяці прозвішчы яе нядобразычліўцаў. А мова жыве. І будзе жыць! Бо на абарону яе заўсёды знаходзіліся неабыякавыя сэрцам людзі.

Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч – адзін з гэтай слаўнай кагорты.

***Антон Лабовіч.***

*(Пра А. Пяткевіча чытайце на ст. 2-4.)*





## Аляксей Пяткевіч:
# “Жыць заўсёды імкнуся сумленна”

*Прафесару Гарадзенскага універсітэта імя Я. Купалы Аляксею Пяткевічу – 75*

***У наступным годзе споўніцца 50 гадоў, як Аляксей Пяткевіч прыехаў на работу ў Гародню. Восень 1957 помніць да драбніц. Спачатку было ніякавата пасля Менска, дзе прыжыў сем гадоў: пяць як студэнт БДУ і яшчэ тры, займаючыся ў аспірантуры. Была магчымасць застацца ў сталіцы, бо размеркаванне атрымаў у Інстытут літаратуры Акадэміі Навук. А ён зірнуў на гэты факт вокам хлопца з “глыбінкі”. Жонка працавала ў Навагрудку. На яе руках была малая дачушка. А ўласнай кватэры не прадбачылася...***

**Гародня не Менск, але ўсё ж...**

Аляксей рашуча падступіўся да старшыні размеркавальнай камісіі і проста сказаў:

— Паеду працаваць на перыферыю.

Сівы прафесар ссунуў акуляры на нос, запытальна узняў бровы і моўчкі глядзеў на ўчарашняга студэнта. Відаць, упершыню чуў, каб нехта адмаўляўся ад работы ў Інстытуце літаратуры АН БССР.

— Наколькі ведаю, усе заявы з абласных цэнтраў задаволены...

— Васіль Жураўлёў гатовы саступіць сваё размеркаванне ў Гарадзенскі педінстытут, калі на тое будзе ваша згода.

— І вы адмовіцеся ад месца ў Інстытуце Акадэміі Навук? Не кожнаму даецца такі шанец...

Так малады аспірант апынуўся ў Гародні. Сёння кажа, што гэта здарылася зусім выпадкова. Надзённыя турботы адсунулі ўбок магчымасці навуковай кар’еры ў сталічным акадэмічным цэнтры. Але яны, тыя даброты, здаваліся такімі далёкімі, а жыллёвая праблема, кажучы проста, брала за горла цяпер.

— Не падумаў нават, што мог бы ўладкавацца з сям’ёй у пакойчыку інтэрната, — смяецца Аляксей Міхайлавіч. – Кватэру ў Гародні ўсё роўна атрымаў праз год.

А работы ў інстытуце падкінулі ўдосталь. Выкладчык кафедры літаратуры чытаў лекцыі, вёў практычныя заняткі, кіраваў педагагічнай практыкай у школе. Рыхтаваўся да абароны кандыдацкай дысертацыі. Пісаў яе пад кіраўніцтвам дацэнта Юльяна Пшыркова. Гэты чалавек спачатку быў кіраўніком курсавой студэнта Пяткевіча. Аднойчы яшчэ на чацвёртым курсе заўважыў:

— Вам трэба паступаць у аспірантуру.

Ён жа кіраваў і дыпломным праектам выпускніка. Затым – кандыдацкім праектам на тэму “Псіхалагічны аналіз і праблемы характару ў прозе К. Чорнага”.

Вестку аб пераездзе Аляксея ў Гародню ўспрыняў разгублена:

— Што ж ты робіш, хлопча! У цябе ж дадзеныя навукоўца. Наперадзе кандыдацкая, доктарская, вялікія перспектывы даследчыцкай работы... Нават не параіўся! Ну, як жа так!..

Яны засталіся ў добрых адносінах назаўсёды. Бываючы ў Менску, Аляксей Міхайлавіч абавязкова наведваў знакамітага вучонага. Тэмы для размовы знаходзіліся адразу. Абодва займаліся вывучэннем літаратурнага працэсу, творчасці асобных пісьменнікаў.

**Дзякуй Вам, пані Эліза!**

Гародня прыемна ўразіла маладога выкладчыка. Старажытны горад меў сваё непаўторнае аблічча. Аляксей часцяком адчуваў асалоду першаадкрывальніка, шпацыруючы па вузкіх вулках, пакручастых берагах Нёмана, падворках Старога і Новага замкаў. Сапраўдны подых мінуўшчыны выпраменьвалі сцены царквы XII-га стагоддзя – Каложы. Не, няма чаго наракаць на лёс! Кожнаму сваё...

А яшчэ яго ўразіў будынак якраз насупраць педагагічнага ўніверсітэта. Іншы раз студэнты выконваюць самастойнае заданне, а ён, малады выкладчык, спыніцца каля акна, углядаецца на спарахнелыя драўляныя прыступкі ганка і ўяўляе, як гаспадыня дома пісьменніца Эліза Ажэшка заходзіць ў гэтыя дзверы. Тут не раз гасцяваў Францішак Багушэвіч, яе добры знаёмы, прыязджаючы ў Гародню па справах праўніка. Дарэчы, у гэтым доме пані Эліза падказала пану Францішку, што не па-польску, а на роднай яму беларускай мове паэт можа выявіць сябе ва ўсёй сіле таленту.

Пазней дом быў перанесены на добры дзесятак метраў далей ад дарогі. Той самай дарогі, якую ўдзячныя жыхары горада ў 1910 годзе масцілі саломай, каб хворую пані Элізу не турбаваў грукат вазоў пад вокнамі.

Аляксей Міхайлавіч перакананы, што менавіта ўласная зацікаўленасць жыццём і творчасцю Элізы Ажэшкі падштурхнула яго да даследчыцкай дзейнасці ў галіне краязнаўства Гарадзеншчыны. У канцы 50-х – пачатку 60- гадоў мінулага стагоддзя постаць вядомай пісьменніцы заставалася нібыта ў цяні. Не тое, каб на яе забыліся. Па-ранейшаму яе дом не абміналі шматлікія турысты. Але вобраз мужнай жанчыны, змагаркі з расійскім самадзяржаўем, яе людскасць, перапіска з вядомымі пісьменнікамі і грамадска-палітычнымі дзеячамі таго часу і асабліва яе глыбокія сувязі з родным краем заставаліся да канца не раскрытымі...

Ёсць яшчэ адна акалічнасць, дзякуючы якой Аляксей Пяткевіч вельмі хутка, калі можна так мовіць, паразумеўся з Элізай Ажэшка. Гэта веданне польскай мовы. У 1938 годзе ён пачаў вучобу ў школе ў родным мястэчку Новы Свержань, што на Меншчыне. На той час гэта была тэрыторыя даваеннай Польшчы.

Бацька прывёў сына да дырэктара школы, сказаў, што малы самастойна навучыўся чытаць і пісаць як па-беларуску, так і папольску. У гэтым была заслуга і самога Міхаіла Антонавіча, які любіў чытаць уголас дзецям доўгімі зімовымі вечарамі, прыносіў кнігі з бібліятэкі прафсаюзнага клуба лесазавода, дзе працаваў. Ён быў вялікім апавядальнікам, глыбока веруючым чалавекам.

Дырэктар даў аркуш паперы, асадку і прадыктаваў сказ. Пасля праверкі на прадмет памылак сказаў:

— У першым класе яму няма чаго рабіць. Пойдзе ў другі.

**Свержань і Гародню злучае не толькі Нёман**

Мясціны, з якіх паходзіць Аляксей Пяткевіч, шырока вядомыя ў Беларусі. Ад роднага мястэчка ў пяці кіламетрах славутая Мікалаеўшчына – радзіма Якуба Коласа. Дарэчы, ён у сваёй трылогіі “На ростанях” стварыў вобраз паселішча Панямонне, “зрысоўваючы” яго з Новага Свержня. Яшчэ бліжэй – Стоўбцы.

Пройдзе час і Аляксей Міхайлавіч зацікавіцца паходжаннем радзіннага месца. Установіць, што гісторыю сваю яно бярэ з XV-га стагоддзя, а дакладней упершыню ўпамінаецца ў гістарычных крыніцах пад 1428 годам. Жыла тут дробная мясцовая шляхта, рамеснікі. Мала хто карміўся з зямлі. Дзед па бацьку Пяткевіча служыў на чыгунцы. Разумеў значэнне навукі і клапаціўся пра вучобу дзяцей. Яны заканчвалі гімназіі, рэальныя вучэльні, нехта нават Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Пасля вайны і рэвалюцыі параскідалі братоў і сясцёр па далёкім і блізкім свеце. Адзін служыў афіцэрам у рускай арміі ў час Першай сусветнай вайны, пазней быў начальнікам школы чырвоных камандзіраў. Другі – камендантам ваеннага порта. Бацькавы сёстры павыходзілі замуж. Пазней аселі ў Польшчы.

— І цікава вось што. Адна з іх доўгі час не прыязджала ў Беларусь. А як сустрэліся, загаварылі пабеларуску, то я не мог надзівіцца: сястра зусім не забылася нашай мовы! Яе гаворка была такой, нібыта завітала з суседняй вёскі.

Сваёй мясціне Аляксей Міхайлавіч прысвяціў эсэ “Бацька мой Нёман”. Гэта споведзь пра родны кут, пра сям’ю. У такіх сем’ях растуць працавітыя, кемлівыя і прызвычаеныя да цяжкасці дзеці. Яны з дзяцінства ведаюць, што на некага спадзявацца не прыходзіцца і калі хочам чагосьці дасягнуць, трэба гэта рабіць уласным потам.

— Калі надышла Савецкая ўлада, я пачаў вучыцца ў Стоўбцах. Уявіце сабе такое: у восьмым класе было, як цяпер гавораць, два патокі. У адным – дзеці жыхароў Стаўбцоў, другім – мы, сельскія. Дзевяты клас ужо адзін, агульны. Такі быў адсеў. У дзесятым нас засталося 14 чалавек. Са школьных педагогаў найбольш запомніліся настаўнік роднай мовы і літаратуры, выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Канстанцін Фёдаравіч Самахвал, Марыя Восіпаўна Ярашэвіч, Міхаіл Аляксандравіч Бутанаў, Мікалай Фёдаравіч Галавач, Мікалай Іванавіч Руцкі, Яніна Казіміраўна Рымашэўская...

**Яго вялікасць Белдзяржуніверсітэт**

Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У.І.Леніна на той час быў навучальнай установай, куды марыў паступіць кожны выпускнік школы. Калі хто не дабраў балаў на іспытах, то мог асабліва не хвалявацца. Проста ў вестыбюлі БДУ стаялі прадстаўнікі юрыдычнага інстытута, інстытута народнай гаспадаркі, інстытута замежных моў і запрашалі ў свае ВНУ. Там прымалі без экзаменаў, па адзнаках, атрыманых ва універсітэце. Вось як высока цаніліся веды юнакоў і дзяўчат, якія бралі на сябе смеласць паступаць у галоўную вышэйшую навучальную ўстанову Беларусі!

У 1949 годзе Аляксей Пяткевіч здаў сем уступных экзаменаў і быў лепшым сярод 11 іншых прэтэндэнтаў на месца. Аднак не гэта заняло дух. Калі праверылі сачыненні па рускай літаратуры, выкладчыца-дацэнт наўпрост сказала:

— Вы спісалі. Не можа выпускнік сярэдняй школы так прафесійна раскрыць тэму. Калі сваім розумам дайшлі, то не паверу. Таму стаўлю чацвёрку.

Аляксей Міхайлавіч і сёння памятае сваё пачуванне:

— Стаю і не ведаю, што рабіць. Даводзіць, што сачыненне мае ад першай да апошняй літары — бессэнсоўна, калі выкладчыца перакanала ўжо сама сябе ў адваротным. Спрачацца? А што дакажаш? Так моўчкі і пайшоў. Крыўдна было...

Толькі гэта зусім хутка адышло на другі план. Універсітэт захапіў прыгожым светам ведаў і творчасці. Хто са студэнтаў філалагічнага факультэта, аддзялення беларускай мовы і літаратуры, у прыватнасці, не адчуваў сябе сапраўдным пісьменнікам! Талент ад Бога мелі Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Рыгор Барадулін, Вячаслаў Адамчык, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Міхась Мушынскі, Адам Мальдзіс, Уладзімір Дамашэвіч, Павел Місько, Вячаслаў Чамярыцкі. Гэтыя хлопцы друкавалі свае творы, на іх ускладаліся вялікія надзеі. І сапраўды, яны цяпер сярод тых творцаў, якія складаюць гонар беларускай літаратуры. Даўнім сяброўствам з імі Аляксей Пяткевіч ганарыцца і сёння.

У яго групе быў таксама свой паэт – Фёдар Макаранка. Аднак ён раптоўна знік. Прайшла пагалоска, што ў інтэрнаце прачытаў свой верш пра ветэрана вайны, інваліда, які жабрue. Нехта са слухачоў “дабрадзеяў” хуценька данёс, куды трэба. Фёдара асудзілі на восем гадоў турмы.

— Вальнадумства заўсёды было ўласціва БДУ. Памятаю, чытаем газеты, знойдзем адпаведную “верноподданническую” публікацыю, смяемся, ажно заходзімся. І палітычныя падзеі абмяркоўвалі, асабліва не азіраючыся.

Не забудзем, што так званая хрушчоўская адліга яшчэ была наперадзе. Мець свой пункт гледжання заахвочвалі выкладчыкі М.Р.Ларчанка, М.В.Саўсун, Д.Я.Фактаровіч, І.В. Гутараў, Ф.І.Куляшоў, Ю.С. Пшыркоў.

**З кім павядзешся, ад таго і набярэшся?**

А ў Гародні творчая брацiя гуртавалася вакол абласной газеты “Гродзенская праўда”. Калі больш канкрэтна, то цэнтрам прыцягнення было літаратурнае аб’яднанне пры рэдакцыі і яго кіраўнік вядомы заходнебеларускі паэт Міхась Васілёк. Ён пастаянна рыхтаваў літаратурныя старонкі.



*Аляксей Пяткевіч з маці Антанінай Уладзіміраўнай і бацькам Міхаілам Антонавічам, жонкай Марыяй.* 1984 г.

## Аляксей Пяткевіч:

# “Жыць заўсёды імкнуся сумленна”

***Прафесару Гарадзенскага універсітэта імя Я. Купалы Аляксею Пяткевічу – 75***

У рэдакцыю Аляксей завітаў хутка пасля пераезду. Пагартаў падшыўку за мінулы, 1956 год. Пад адным з лірычных фотаздымкаў прачытаў:

***Нібы сястрыцы, тры бярозкі***
***Стаяць на ўзлессі***
***ў задуменні.***
***На лісце майскі***
***дзень расплёскаў***
***Бляск яркі***
***сонечных праменняў...***

Гэты былі вершы Міхася Васілька. Паэт любіў змяшчаць паэтычныя радкі пад адпаведнымі здымкамі. Быў перакананы, што прыгажосць прыроды патрабуе свайго ўспрыняцця. Сухі празаічны подпіс не здольны перадаць задуму штатнага ці пазаштатнага фатографа.

Звярнуў увагу на публікацыі Аляксея Карпюка “Працоўная сям’я”, “Калгасная цаліна”, “Струбніцкі каваль”, “На цяжкім участку”. Гэта былі лёгкія для чытання творы, па-майстэрску пабудаваныя, з выразнымі характарамі, дыялогам.

Тыя ж думкі выклікалі нарысы Васіля Быкава “Шклавары”, “Адраджэнне”, замалёўка “Практыкантка”. Падумалася, што аўтары спрабуюць свае сілы як пісьменнікі. Было прыемна пераканацца ў гэтым, калі ў рукі патрапіў альманах “Нёман”, выдадзены ў канцы таго ж 1956 года. Аляксей Карпюк змясціў аповесць “Раманюкі”. Васіль Быкаў – два апавяданні. Творы вызначаліся добрым мастацкім узроўнем.

Калі адбылося асабістае знаёмства, пераканаўся, што гэтыя пісьменнікі – асобы. Яны не абышлі ўвагай і публікацыі Пяткевіча, змешчаныя ў газетах, часопісах, зборніках. Бачылі ў ім аб’ектыўнага даследчыка, літаратурнага крытыка. Падтрымалі зацікаўленне Аляксея Пяткевіча гісторыяй культуры Наднёманскага краю.



**На ганку хаты Зоські Верас. Злева направа: Лявон Луцкевіч, Марыя Пяткевіч, Аляксей Пяткевіч, Зоська Верас, Ніна Ляшковіч, Аляксандр Лінень, Генадзь Кахаnоўскі, Сяргей Панізнік. 30.9.1982 г.**

Ён не адцураўся гэтых пісьменнікаў у самыя цяжкія для іх часы, калі ўся моц камуністычнай ідэалогіі абрынулася на іх падчас так званай справы літаратараў 1974-1976 гадоў. Даcталося і самому, але вытрымаў злыбяду і не зламаўся, загартаваўшы характар і волю.

Аляксей Пяткевіч 20 лістапада 1965 года меў смеласць надрукаваць у “Гродзенскай праўдзе” станоўчы водгук на аповесць В. Быкава “Мёртвым не баліць”, якая абвострана адлюстравала праўду вайны, самавольства вышэйшага каманднага складу, дзейнасць СМЕРШа. Неўзабаве аповесць была ў штыкі сустрэтая афіцыйнымі коламі.

Аўтара рэцэнзіі выклікалі ў абкам партыі. За свайго выкладчыка заступіўся тагачасны рэктар пед-інстытута Д.С.Маркоўскі. Дзякуючы яму, удалося ўтрымацца на працы...

Тады яны стаялі плячо да пляча – пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль, гісторык Барыс Клейн, краязнавец Алесь Белакоз, паэтка Ларыса Геніюш. На арганізаваных сходах працоўных “прарабатывали” В. Быкава. А.Карпюка выключылі з партыі, ён застаўся без работы. Барыса Клейна пазбавілі працы ва універсітэце. Моцны ўціск адчуваў А. Белакоз. Лічы, пад хатнім арыштам жыла ў Зэльве Л. Геніюш...

У 1971 годзе Васіль Быкаў, старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, папрасіў:

— Зрабі, Аляксей, спіс сваіх публікацый.

Васіль Уладзіміравіч увогуле не быў шматслоўным. Паміж імі, “сваімі”, была завядзёнка: не цікавіцца тым, пра што табе не гавораць. Сказаў зрабіць, значыць, трэба так зрабіць.

Васіль Быкаў даслаў той спіс ў Саюз пісьменнікаў, прыклаўшы рэкамендацыю Д. Бічэль, а таксама ўласную да хадайніцтва аб прыёме Аляксея Пяткевіча ў СП.



**Злева направа: Аляксей Пяткевіч, Марыя Шаўчонак і Аляксей Карпюк. Гродна. 1981 г.**



***Акадэмік Р.Гарэцкі, грамадскі дзеяч С.Домаш, А.Пяткевіч** (злева направа). 2003 г.*

Пазней адбылася тэлефонная размова:

— Збірайся ў Менск. Цябе будуць прымаць ў Саюз пісьменнікаў.

— Які Саюз! Я ж кніг друкаваных, па сутнасці, не маю...

Васіль засмяяўся:

— Кнігі будуць. Матэрыялу назапасіў, дай Бог кожнаму столькі. А рэкамендуюць цябе Данута і Васіль. Хіба кепская гвардыя?



***Аляксей Пяткевіч і Апанас Цыхун у час вечарыны, прысвечанай Васілю Быкаву.** 2004 г.*

**X X X**

Прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч з’яўляецца аўтарам кніг, якія сталі настольнымі ў гісторыкаў, краязнаўцаў, журналістаў, навукоўцаў, студэнтаў. Яго пяру належыць блізу 450 друкаваных прац, змешчаных у энцыклапедыях, падручніках, зборніках, часопісах.

Ён ахвотна выступае ў розных аўдыторыях. Удзельнічае ў рабоце грамадскіх аб’яднанняў. Асаблівы клопат праяўляе пра развіццё роднай мовы і культуры, як і належыць нястомнаму падзвіжніку культуры Гарадзенскага краю.

Сам лічыць сябе перш за ўсё выкладчыкам, педагогам, які аддаў жыццё роднаму універсітэту імя Я. Купалы. Любіць успамінаць сваіх студэнтаў, якіх заўсёды вучыў шанаваць як святыню сваю зямлю і яе нацыянальную спадчыну.



***Пісьменнікі Аляксей Пяткевіч і Вольга Іпатава.** 2003 г.*

Апошняя па часе яго кніга мае загаловак “Старонкі спадчыны” (Мінск, 2006).

***Антон Лабовіч,***
***Гародня.***

---

**Сябры ТБМ імя Ф. Скарыны, Гарадзенскага гарадскога аддзялення ТБШ, рэдакцыя газеты “Наша слова”, усе прыхільнікі роднай мовы шчыра віншуюць Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча з 75-годдзем і жадаюць плёну на карысць Беларусі.**

# Гарадзенцы пра Аляксея Пяткевіча

## Аляксей Пяткевіч – пісьменнік і краязнаўца...

**Няма сумневу, што новая кніга прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы Аляксея Пяткевіча "Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы" (Мн., "Беларускі кнігазбор", 2006) выкліча зацікаўленасць краязнаўцаў. У трох раздзелах (артыкулы, рэцэнзіі, партрэты) шмат фактаў, якія мелі месца ў гісторыі Прынёманскага краю.**

Краязнаўчым матэрыялам прасякнуты артыкулы "Станаўленне беларускай ідэі ў кантэксце культурнага руху XIX ст.", "Гродзенскі гурток беларускай моладзі і Сакольшчына", "Старажытныя евангеллі з Гродзеншчыны", "Культурныя здабыткі Гродзеншчыны ў музейных калекцыях вобласці"...

Недарэмна аўтар неаднаразова падкрэслівае ўнікальнасць роднага краю, які даў літаратуры А. Міцкевіча, Э.Ажэшку, Ігната Дварчаніна, Зоську Верас, Янку Брыля, Янку Нёманскага, Аляксея Карпюка, Дануту Бічэль, Юрку Голуба і многіх іншых.

Свае высновы А. Пяткевіч выклаў у артыкулах "Культура гродзенскага рэгіёну як з'ява беларуска-польскага памежжа", "Рэгіянальныя асаблівасці польскай літаратуры ў XIX ст. у Беларусі", "Паэма Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і ідэі Асветніцтва ў Беларусі", "Беларускія моўныя элементы ў творах польскіх пісьменнікаў-ліцьвінаў (XIX ст.)", "Творчасць Э.Ажэшкі як прадукт беларуска-польскага культурнага памежжа", "Асветніцкі кірунак творчай дзейнасці Сакрата Яновіча"...

Цыкл "Партрэты" пачынае артыкул "Максім Багдановіч як феномен беларускай культуры". Іншыя творы прысвечаны знанай краязнаўцы Зосьцы Верас, святару Казіміру Сваяку, пісьменнікам Ларысе Геніюш і Аляксею Карпюку, кампазітару Аляксандру Шыдлоўскаму, беларусу з Беласточчыны Віктару Шведу, паэтцы Данусе Бічэль, акадэміку Юрыю Астроўскаму, празаіку Лідзіі Ялоўчык, музеязнаўцу Алесю Белакозу...

Ці трэба казаць, што гэтыя аўтары ў сваёй творчасці шырока карысталіся краязнаўчымі звесткамі. Ды і самі выдатныя знаўцы радзімных мясцін.

Шкада толькі, што кнігу А. Пяткевіча набудзе далёка не кожны аматар гісторыі сваёй зямлі, прыхільнік творчасці таго ці іншага літаратара, узгаданага ў выданні. Наклад зборніка складае ўсяго 100 асобнікаў.

Сам Аляксей Міхайлавіч у краязнаўстве не новы чалавек. Упершыню шчыльна заняўся гэтай справай у 1968 годзе. Пераймаў веды і досвед у Г. Кахановскага, У.Урбановіча, А.Кіркевіча.

*Антон Лабовіч, Гродна.*

## *Мікалай Таранда, старшыня Гарадзенскага гарадского гістарычна-культурнага грамадскага аб'яднання "Паходня":*



*— З Аляксеем Міхайлавічам я асабіста пазнаёміўся ў сакавіку 1986 года. Мы запрасілі яго на другое па чарзе паседжанне клуба. Наша работа толькі-толькі пачыналася. І ведаеце, як хораша было паслухаць дасведчанага чалавека, які нагадаў пра старонкі беларускіх летапісаў, знакамітую бібліятэку Храптовіча.*

*Пазней спадар Аляксей часта выступаў на паседжаннях клуба. Заўсёды знаходзіў цікавыя тэмы. Не было выпадкаў, каб ён адмовіўся прыйсці да нас. Прафесар Міхась Ткачоў, старшыня клуба, неяк нават сказаў, што Аляксей Пяткевіч мог бы стаць дзейным кіраўніком нашай арганізацыі...*

*Калі ў студзені 1989 года стваралася гарадская грамадская арганізацыя "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", клуб "Паходня" рашуча падтрымаў ініцыятыву, дэлегаваў 58 чалавек на устаноўчую канферэнцыю. Мы аднадушна прагаласавалі за кандыдатуру спадара Аляксея, якога сход вылучыў на пасаду старшыні.*

*І сёння Аляксей Пяткевіч выступае ў самых розных аўдыторыях, прапагандуе здабыткі беларускай культуры, гісторыі, літаратуры, у прыватнасці, гарадзенскага рэгіёну. Ён цікавы апавядальнік, выдатна ведае прадмет сваёй гаворкі.*

## *Яўген Петрашэвіч*



### *Сто гадоў зычу Аляксею Пяткевічу*

*Птушкі шчодра*
*дораць трэлі,*
*З імі я прашчабячу*
*У гэты вечар юбілейны*
*Аляксею Пяткевічу.*

*Семсят пяць*
*пражыта летаў –*
*Ці многа, ці мала?*
*Гэта ж*
*сталасці прыкмета,*
*Узрост аксакала.*

*І ў гэты добры вечар*
*З творчасцю павенчаны*
*Вас вiншуем,*
*пан прафесар —*
*Згустак Беларушчыны.*

*У кніжку збегліся сягоння*
*Людзі Прынямоння,*
*І падзякаваць хачу*
*Аляксею Пяткевічу.*

*Пажадаем вам натхнення*
*І Боскай ласкі.*
*Варты пахвалы, здзіўлення,*
*Наш спадар Стаўбцоўскі.*

*Шчасця і здароўя зычым,*
*Наш пачэсны кавалер.*
*Мо энергіі пазычыш*
*Хоць крышачку на павер?*

*Хай зязюлька накукуе*
*Сто гадоў сваё "ку-ку"!*
*І натхненне спадарye*
*Стаўбцоўскаму дзецюку.*

*І ў прышласці не трусь,*
*Не збаўляй нагрузку.*
*Усё рабі, каб Беларусь*
*Была беларускай.*

*Хай дар Боскі Вас не кіне,*
*Не абыдзе слава.*
*Аддаць сэрца для Радзімы –*
*Пачэсная справа!*

## Ірына Данілоўская, *настаўніца СШ № 3 г. Гародня*

Я была студэнткай Аляксея Міхайлавіча, калі вучылася на філалагічным факультэце Гарадзенскага універсітэта. Ведаеце, што больш усяго здзіўляла нас, студэнтаў? Памяць гэтага чалавека. Ён прыходзіў на лекцыі без усякіх запісаў. Гаварыў роўна, не збіваўся, спасылаўся на тэксты, называючы імёны аўтараў, час выдання зборнікаў, цытаваў урыўкі. Калі мы прасілі паўтарыць фразу, Аляксей Пяткевіч прамаўляў яе дакладна, слова ў слова, каб мы маглі запісаць.

Мы баяліся яго як экзаменатара, бо на выгляд Аляксей Міхайлавіч такі сур'ёзны, заняткі праводзіў без ніякіх адступленняў ці жартаў. Аказалася, што нашы турботы былі дарэмнымі. Ён быў патрабавальным, але спагадліва ставіўся да студэнтаў. Але, прызнаюся, мы старанна рыхтаваліся да яго экзаменаў.

Аляксей Пяткевіч па характару чалавек прамы.



Калі нешта не падабаецца, то скажа прама ў вочы. Не ўсім гэта падабаецца. Аднак ён мае сваю непахісную пазіцыю. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова ведаць яго аўтабіяграфію. Якую трэба было мець мужнасць, каб у 60-я гады мінулага стагоддзя ў часы праследавання Васіля Быкава за яго аповесць "Мёртвым не баліць" надрукаваць у газеце рэцэнзію і рашуча падтрымаць апальнага пісьменніка!

Такі ён, наш Аляксей Міхайлавіч, чалавек слова і гонару.

## Аляксандр Місцюкевіч, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".

Прозвішча Аляксея Міхайлавіча ўпершыню пачуў ад жонкі. Яна закончыла ГрДУ імя Янкі Купалы, і ёй давялося слухаць лекцыі, якія чытаў прафесар Пяткевіч. Я ўсвядоміў, што гэты чалавек валодае вялікімі ведамі ў сваёй галіне – культуралогіі, гісторыі літаратуры. Яго надзвычай шануюць студэнты і тыя, хто яго ведае.

Асабіста пазнаёміўся з Аляксеем Міхайлавічам падчас яго сустрэч з актывам грамадскага аб'яднання "Паходня". Гэта было ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. У 1989 годзе было створана рэспубліканскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы". У Гародні гарадскую арганізацыю ўзначаліў якраз Аляк-



сей Міхайлавіч. Аддзяленне з'явілася і на нашым прадпрыемстве "Гроднаэнерга".

Калі пазнаёміліся бліжэй, то адчуў, што Аляксей Міхайлавіч мае здольнасць набліжаць да сябе людзей, добры арганізатар. Мяркую, што не без яго ўдзелу мая кандыдатура была прапанавана на грамадскую пасаду кіраўніка нанова створанай у 1999 годзе абласной структуры ТБМ.

**Шаноўны спадар Першы намеснік Міністра!**

У нумары 7 газеты "Наша слова" я прачытаў Ваш адказ старшыні грамадскага аб'днання "ТБМ" Алегу Трусаву наконт адрыцця беларускамоўга універсітэта. Я абураны тым, што Міністэрства адукацыі на хоча адкрыць хатя б адну беларускомоўную ВНУ ў нашай краіне і тым самым прычыніцца да выратавання беларускага народу.

У тое, што ў некатарых ВНУ існуюць поўнавартасныя беларускамоўныя плыні мне верыцца з цяжкасцю (на жаль у гродзенскіх ВНУ такіх плыняў чамусьці няма). Я не магу паверыць, што на гэтых плынях такія дысцыпліны, як фізічнае выхаванне і замежныя мовы выкладаюцца па-беларуску. А прача таго існаванне малалікай беларускамоўнай плыні ў ВНУ, дзе большасць студэнтаў навучаецца па-расійску, стварае адчуванне ў беларускамоўных студэнтаў іх непаўнавартаснасці.

Прапаную Міністэрству адукацыі выдаць загад у якім павінны быць наступныя пункты.

1.Усе абітурыенты ВНУ краіны абавязаны пры паступленні ў заявах указаваць мову на якой яны жадаюць навучацца.

2. Усе без выключэння прадметы на беларускамоўных плынях павінны выкладацца па-беларуску.

3. Абавязаць кіраўніцтва ВНУ, дзе існуюць беларускамоўныя плыні, даваць адказы студэнтам (як вусна, так і пісьмова) на беларускай мове, калі студэнт звяртаецца да іх па-беларуску.

4. Уся інфармацыя ў ВНУ, дзе існуюць беларускамоўныя плыні, павінна пісацца на беларускай і расійскай мовах.

*Аляксандр Ступень.*



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*вул. Калінsocкага, д.73 кв.97*
*230030 г. Гродна*
*Ступеню Аляксандру*

Міністэрства адукацыі на Ваш зварот паведамляе наступнае.

У адпаведнасці з Законамі Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", "Праграмай дадатковых мер па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", зацверджанай пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 27.08.2001 № 48, Міністэрствам адукацыі сумесна з рэктарамі вышэйшых ійзучальных устаноў праводзіцца работа па пашырэнню беларускамоўнага выкладання вучэбных дысцыплін, ажыццяўляецца адкрыццё беларускамоўных плыняў, аддзяленняў і вучэбных груп у вышэйшых навучальных установах нашай краіны.

На сённяшні дзень у Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імяА.А. Куляшова і іншых ВНУ створаны вучэбныя групы, у якіх навучанне ажыццяўляецца на беларускай мове. У большасці вышэйшых навучальных устаноў існуюць вучэбныя групы, у якіх выкладанне вучэбных дысцыплін ажыццяўляецца на дзвюх мовах (рускай і беларускай). Адукацыйным стандартам прадугледжана вывучэнне курсаў "Прафесіянальная лексіка", "Гісторыя Беларусі" ва ўсіх навучальных установах на беларускай мове.

Пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны абітурыенты маюць магчымасць здаваць уступныя іспыты па профілі (напрамку) спецыяльнасці на адной з дзяржаўных моў (па асабістаму жаданню абітурыента), а студэнты - выбіраць мову навучання.

Вашы прапановы разгледжаны і будуць даведзены да кіраўніцтва вышэйшых навучальных устаноў.

**Першы намеснік Міністра А.І. Жук.**

## Сустрэчы ў ТБМ

**29.03. 18.00.** Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі краіны. Дзіцэвіч Л. М.

**30.03. 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. Грыцкевіч А. П.

**30.03. 19.30.** Як стварыць суполку ТБМ? Кручкоў С. М.

**6.04.18.00.** Гарадская цывілізацыя ў Беларусі 19-20 ст. З. Шыбека.

**Вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.**



## Чарговая прэзентацыя кнігі Барадуліна

*22 сакавіка адбылася прэзентацыя кнігі Рыгора Барадуліна "Ксты", перакладзенай на англійскую мову. Варта сказаць, што гэтая кніга вылучана беларускай грамадскасцю на Нобелеўскую прэмію і ўсе неабходнае паперы ўжо перададзены ў Швецыю. З вітальным словам па-беларуску выступілі амбасадары ЗША, Швецыі і Ізраіля. Потым па-беларуску і англійску выступілі рэцэнзанты і ўкладальнікі кнігі славутыя навукоўцы і перакладчыкі з Беларусі, ЗША і іншых краін.*

*Са словамі ўдзячнасці прамаўлялі прадстаўнікі каталіцкага касцёла Беларусі. Некалькі слоў шчырай падзякі ад сябраў ТБМ сказаў і старшыня ТБМ.*

*А потым было свята паэзіі. Выступілі перакладчыкі і прачыталі пераклады вершаў Барадуліна на французкую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую, іспанскую, літоўскую і латышскую мовы. Зараз вершы Барадуліна пачалі перакладаць і на японскую мову. Потым была выканана музычная п'еса, пераклад верша Гарсія Лоркі на буларускую мову героем гэтай імпрэзы.*

*Арганізатарам гэтай унікальнай сустрэчы выступіў сябра Рады ТБМ ксёндз-пробашч касцёла Св. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк. На развітанне прысутныя атрымалі чарговую кнігу Рыгора Барадуліна. "Быць", выдадзеную рымска-каталіцкай парафіі Святога Сымона і Святой Алены. Кніга з'яўляецца зборнікам вершаў прысвяченых Чарнобалю.*

**Наш кар.**

## РАДКІ З ПРЭЗЕНТАЦЫІ

22-га сакавіка прайшла прэзентацыя кнігі Рыгора Барадуліна "Ксты", выдадзеная на беларускай і англійскай мовах Рымска-Каталіцкай парафіяй Св. Сымона і Св. Алены, якую прадставілі на Нобелеўскую прэмію яшчэ ў лютым гэтага года.

На прэзентацыю былі запрошаныя высокія госці - паслы з розных краін, святары, прадстаўнікі ўлад г. Менска, выкладчыкі і студэнты, вернікі і іншыя.

Кніга "Ксты" - гэта зборнік духоўнай паэзіі Рыгора Барадуліна, скампіляваны ксяндзом Уладзіславам Завальнюком і дацэнтам Алай Сакалоўскай, перакладзены на англійскую мову выкладчыкамі, выпускнікамі і студэнтамі Менскага лінгвістычнага універсітэта, адрэдагаваны амерыканскімі знаўцамі літаратуры. Назва "Ксты" азначае "крыжы, хрышчэнне, хрост" і сімвалізуе дарогу да Бога, любоў да Радзімы, Роднай мовы і Мамы.

*Пачынаецца дарога*
*з парога.*
*Якую не выбірай —*
*Усе дарогі вядуць да Бога.*

А імпрэза пачынаецца са святых песень у выкананні хору хлопчыкаў пры касцёле Св. Сымона і Св. Алены. Пасля словы гонару і радасці за Талент, за высокія думкі і пачуцці, за беларускае слова, якое паляцць па свеце, і якое пачуюць, ацэняць і, спадзяёмся, падтрымаюць.

Выступаюць паслы і прадстаўнікі амбасадаў з ЗША, Чэхіі, Ізраіля, Швецыі (дарэчы, на добрай беларускай мове) і ў адзін голас падтрымліваюць ідэю вылучэння паэта Рыгора Барадуліна на атрыманне прэміі. Літаратары і перакладнікі адзначаюць высокае майстэрства паэта, агмень яго рамантычнай душы, боль за лёс народа, цудоўную і адметную паэтычную форму.

"Жыць беларускаму слову", - верыць старшыня ТБМ Алег Трусаў, - бо яно перакладае з іншых моў, а таксама перакладаецца на іншыя мовы".

Духоўная і свецкая асоба, прафесар і дыпламат, выкладчык і студэнт, паэт і перакладнік, дэкламатар і спявак — усе аднадумна за тое, што Рыгор Барадулін заслугоўвае пашаны не толькі ў беларускага народа, але і ў людзей добрай волі ўсяго свету, бо ён выказвае ўніверсальнае для чалавека, ён выказвае тое, што кожны на гэтай Зямлі адчувае, але робіць Барадулін гэта ў высокай паэтычнай форме з усімі нюансамі беларускага слова, якое напаўняецца магутным сэнсам у цеснаце вершаванага радка і пранізвае душу болем за лёс радзімы, чалавека і прыроды.




*"Ксты" Рыгора Барадуліна, першае выданне і бібліяграфічная рэдкасць*

Гучаць вершы паэта на розных мовах - іспанскай, італьянскай, французскай, польскай, літоўскай, украінскай і іншых. Барадулін заслужыў гэта, ён сам не толькі паэт, а яшчэ і паэт-перакладнік.

Рыгора Барадуліна павінны шанаваць усе, з чыіх моў ён сам перакладаў, а перакладаў ён са шматлікіх моў свету, і як спецыяліст у тэорыі перакладу, магу сказаць, што амаль нікога няльга параўнаць з перакладамі Рыгора Барадуліна з Байрана, Кітса, Кіплінга і іншых англамоўных паэтаў.

Дарэчы, выйшла яшчэ адна кніга "Быць! / To Be!", у якой падабраныя вершы пра нашу бяду, нашу трагедыю - Чарнобыль. Пачынаецца кніга з радкоў:

*Беларусь - ты мой*
*сон велікодны,*
*Сон, што сніцца*
*анёлам вясной.*

*Belarus, you are my*
*Easter dream?*
*The dream which angels*
*see in spring.*

Гэтыя радкі, а таксама выявы з самім Рыгорам Барадуліным у роздуме, у радасці і ў скрусе ля парога хаты і на ўлонні прыроды (яшчэ жывой) увесь час высвечваюцца на экране і падмацоўваюць уражанне і ўрачыстасць, якія перажывае кожны прысутны.

Заканчваецца імпрэза салодка-фруктовым сталом. Пост, браты беларусы, пост ачышчае душу і думкі.

*Божа, пашлі Беларусі*
*Ласку з Тваімі вачамі,*
*Сэрцы суцеш у скрусе,*
*Злітуйся над крывічамі!*

Такая малітва Рыгора Барадуліна ў кнізе пра Чарнобыль. А я малюся за Яго:

*Усявышні!*
*Дай Паэту здароўя,*
*Пашлі Яму натхнення,*
*Дай свету пачуць Яго Слова*
*Бо гэта і Нашае слова!*

А як перакладніца, у якой змяшаліся ў галаве дзве мовы падчас перакладу, заканчваю артыкул такімі "macaronic" радкамі:

***Dear** Рыгорка,*
*Нам радасна,*
*Але **a little** горка.*
*Радасна,*
*Бо Ты-*
***A Poet** ад Бога.*
*Але шчэ доўгая дарога,*
***Ryhorka***
***And** высокая тая **Swedish***
*Нобеля горка,*
*Якую **all of us***
*Трэба адолець,*
*А зрабіць шчэ трэба*
*Вой, як многа!*

**Алена Таболіч,**
**перакладніца,**
**сябра ТБМ з МДЛУ.**

# Музей - гістарычная каштоўнасць






Не так даўно будынку, у якім размяшчаецца Нясвіжскі краязнаўчы музей нададзена 4-я катэгорыя, як помніку архітэктуры канца 19-га стагоддзя.

Як паведамілі карэспандэнту "Нашага слова" ў музеі, першапачаткова ў гэтым будынку па не зусім спраўджаных звестках была рамесная навучальня, потым сірочы дом. Пры Польшчы тут была казарма, у савецкі час - вайсковыя склады.

З 1995 года тут музей.

**Наш кар.**

# "Музеі Беларусі"

Выйшла з друку кніга А. А. Гужалоўскага "Музеі Беларусі (1941-1991гг.)", якая прысвечана лёсу беларускіх музейных калекцый у гады вайны, узнаўленню музейных калекцый у гады вайны, узнаўленню музейнай сеткі БССР у пасляваенны час, развіццю музейнай сеткі БССР у пасляваенны час, а таксама развіццю музейнай справы ў рэспубліцы да распаду СССР у 1991 г.. Прыведзена 50 ілюстрацый, большасць з якіх публікуюцца ўпершыню. Гэта выданне зацікавіць як спецыялістаў – музеёлагаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, калекцыянераў, мастакоў, студэнтаў, так і аматараў айчыннай гісторыі. Рэцэнзентамі кнігі з'яўляюцца: Н.Ф. Высоцкая і У. А. Пілен Кніга мае мізэрны наклад – 100 асобнікаў. Ёсць фотаздымкі, якія нажаль некаляровыя.

***Аляксей Шалахоўскі, гісторык.***

## У БЕРАСЦІ АДКРЫЎСЯ ТЫДЗЕНЬ МУЗЫКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

У Берасцейскім тэатры драмы і музыкі 25 сакавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё Тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва. Яе арганізатарамі выступілі: абласное грамадскае аб'яднанне "Брэсцкае музычнае таварыства", Брэсцкі дзяржаўны музычны каледж імя Р. Шырмы, Брэсцкі тэатр драмы і музыкі і абласная філармонія.

"Сустрэча з цудоўным светам музыкі, яе шэдэўрамі, далучэнне дзяцей да класічнага музычнага мастацтва — галоўная мэта гэтага мерапрыемства, — зазначыла на цырымоніі адкрыцця старшыня Брэсцкага музычнага таварыства Лілія Батырова. — Мы спадзяёмся, што ўсе канцэрты будуць святам як для гледачоў, гэтак і для артыстаў".

На першым канцэрце выступілі сімфанічны аркестр Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, камерны хор музычнага каледжа імя Р. Шырмы, аркестры народных інструментаў дзіцячай музычнай школы з Пружан і дзіцячай школы мастацтваў Бярозы. Усяго ў межах гэтага праекта адбудзецца шэсць канцэртаў, у якіх возьмуць удзел 15 музычных калектываў Брэстчыны і Менска. З іх творчасцю ў дні веснавых школьных канікулаў пазнаёмяцца не толькі брэстаўчане, але і выхаванцы навучальных установ раёнаў вобласці.

Завершыцца Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва 30 сакавіка.

***Ларыса ШЫГАНАВА.***

## У ПАЎФІНАЛЕ "ЕЎРАБАЧАННЯ-2006" П.СМОЛАВА БУДЗЕ ВЫСТУПАЦЬ ПЯТАЙ

У паўфінале міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2006", што адбудзецца 18 і 20 мая ў Афінах (Грэцыя), беларуская ўдзельніца Паліна Смолава будзе выступаць пад пятым нумарам, паведамляе прэс-служба Белтэлерадыёкампаніі. Лёсаванне адбылося 21 сакавіка на сустрэчы кіраўнікоў дэлегацый краін — удзельніц "Еўрабачання-2006", якая праходзіла ў сталіцы Грэцыі.

Адкрые конкурс удзельнік з Арменіі — краіны-дэбютанткі конкурсу.

***Таццяна ДАРАШЧОНАК, БелаПАН.***



*Да 175-х угодкаў паўстання 1831 года*

# Спіс удзельнікаў паўстання 1831 года ў Дзісненскім павеце

146. **Корсак** Люцыян Міхайлавіч, м. Геронцэ. Вызвалены.
147. **Корсак** Іосіф Георгіевіч, м. Пагулянка або Гапонікі. Вызвалены.
148. **Корсак** Казімір Іпалітавіч. Унтэр-афіцэр Сапёрнага батальёна ў Дынабургскай школе. Збег за мяжу. Бацьку забаронена пасылаць яму дапамогу пад пагрозай канфіскацыі маёнтка.
149. **Карсак** Казімір, у манастве Патрыкі. Клерык Глыбоцкага кармеліцкага манастыра. Збег за мяжу. Канфіскацыя.
150. **Корсак** Яўстафі.
151. **Косаў** (Коссов) Геранім Іосіфавіч, падкаморы. Палкоўнік на кані. Вызвалены.
152. **Косаў** Карл (Кароль) Іосіфасіч, м. Саннікі або Нужданы. Харунжы, палкоўнік на кані. Вызвалены.
153. **Куроўскі** Міхаіл Гаўрылавіч, м. Свіло. Член Камітэту. Пад нагляд паліцыі.
154. **Куроўскі** Адам Гаўрылавіч. Член Камітэту. Пад нагляд паліцыі.
155. **Кучынскі** Валяр'ян, іераманах і вікары Браслаўскага манастыра. Пасля паўстання хаваў у сябе Раўдоміна, які аддаў у паўстанцы двух сыноў і 3 сялян. Памілаваны.
156. **Лапацінскі** Аляксандр Марцінавіч, з м. Ёды. Член Віленскай Эдукацыйнай камісіі. Расшукваўся як арганізатар паўстання ў Віленскі краі. Завочна прыгавораны да пакарання смерцю. Загінуў на валах Варшавы.
157. **Лапацінскі** Марцін Ігнатавіч, м. Ёды. Абвінавачаны ў дапамозе сыну Аляксандру. Вызвалены.
158. **Лапацінскі** Станіслаў Фадзеевіч (Тадэвушавіч), м. Ганова, і ягоны брат.
159. **Лапацінскі** Людвіг Фадзеевіч, м. Ганова. Браты павятовага маршалка. Першымі арганізавалі змоўніцкую сходку ў Шаркаўшчыне. Далі старт для захопу Лужок. Людвіг загінуў ў баі за Дзісну. Станіслаў прыгавораны да пакарання смерцю. Маёнтак канфіскаваны.
160. **Лапацінскі** Аляксандр Мікалаевіч. Граф з Юдыцыны, прывёў з сабой 20 чалавек пяхоты. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
161. **Лапацінскі** Іосіф Іосіфавіч, м. Рафалова. Пяхота. Збег за мяжу. Маёнтак канфіскаваны. Памёр у Францыі ў 1853 г.
162. **Лапацінскі** Ігнацы, сын Тадэвуша, м. Тадулін, маршалак дваранства Дзісненскага павету. Палкоўнік на кані. Адпушчаны пад прысягу на вернасць імператару. (сын Вільгельм – паўстанец 1863 г.).
163. **Лапацінскі** Казімір Іосіфавіч, м. Рафалова. Збег за мяжу. Секвестр маёнтка. Памёр у Францыі ў 1859 г.
164. **Лапацінскі** Тамаш (Фама) Нікадзімавіч, м. Тэрэз'янава. Прывёў з сабой 15 чалавек. Узята падпіска на вернасць імператару, нагляд паліцыі. Н. зняты ў 1841 г.
165. **Лапацінскі**, м. Багданава і Паянычы.
166. **Лапацінскі**, граф з Забеліна. Палкоўнік на кані.
167. **Лапацінскі**, граф з Варонкі. Палкоўнік на кані.
168. **Лапацінскі**, граф з Забалоцця. Пяхота.
169. **Лапацінскі**, граф з Воранава. Пяхота.
170. **Лабунскі** Антон Дамінікавіч, юнкер. Збег за мяжу. Канфіскацыя маёмасці.
171. **Лаўрэновіч**, юнкер.
172. **Лахан** Раман Майсеевіч, селянін м. Ружмонт пана Дамброўскага. Паліцэйскае пакаранне.
173. **Ледуховіч.** Збег за мяжу. Маёмасць канфіскавана.
174. **Ліневіч** Канстанцін. Збег за мяжу. Канфіскацыя.
175. **Ліпскі** Ян. Трапіў у палон у 1832 г. пад Псковам з раздробленай косткай нагі.
176. **Лонскі** Юстын. Збег у Прусію. Вярнуўся.
177. **Ляскоўскі** Франц Фларыянавіч, м. Законаўск. Прапаршчык. Збег у Царства Польскае.
178. **Ляскоўскі** Іосіф Фларыянавіч, м. Мілітарна, Законаўск. Падпісаў акт Канфедэрацыі. Грамадзянскі камісар Глыбоцкага ключа. Нагляд паліцыі. Пазбаўлены праў на службу і на выбары. Нагляд зняты ў 1841 г.
179. **Ляскоўскі** з Гарадка. Зяць Баярскага.
180. **Мазуркевіч** Аляксандр, эканом маёнтка Лужкі. Засядацель Яраслаўскага ніжняга земскага суда. Даў прысягу на вернасць імператару.
181. **Макарскі** Антон. Збег у Прусію. Вярнуўся.
182. **Маканскі** Францішак. Збег у Прусію Вярнуўся.
183. **Малахоўскі** Ясафат Францавіч. Арандатар. Пад нагляд паліцыі.
184. **Мангоўскі.** Юнкер. Збег за мяжу.
185. **Марціноўскі** Мікалай.
186. **Маслоўскі** Стэфан Рыгоравіч, селянін м. Ружмонт. Дабраахвотны ўдзел у паўстанні і данос на свайго пана. Паліцэйскае пакаранне.
187. **Мастоўскі**, граф з Лучая. Пяхота
188. **Матусевіч** Іосіф Станіслававіч. Няпоўнагадовы. Эканом староства Красноўскае. Прысяга на вернасць імператару. Пад нагляд паліцыі.
189. **Мялешка** Васіль, селянін м. Рушмант пана Дамброўскага. Дабраахвотны ўдзел у паўстанні і данос на свайго пана ("пан прымушаў"). Паліцэйскае пакаранне.
190. **Мялешка** Даніла. Селянін м. Рушмонт. Дабравольны ўдзел у паўстанні і данос на пана. Паліцэйскае пакаранне.
191. **Мігановіч** Станіслаў Антонавіч, м. Мікалаёва, Загацце. Падсудак Хомскі. Пяхота.Удзельнімк захопу Лужок. Канфіскацыя маёмасці.
192. **Мігановіч** (Магановіч) Антон Мацвеевіч. Былы суддзя Дзісненскага павятовага суда. 62 гады. М. Мікалаёва. Пяхота. Пад нагляд паліцыі.
193. **Мірскі.** Былы маршалак. Пяхота.
194. **Мірскі** з Пагоста. Пяхота.
195. **Мірскі.** Камендант у Дзісне.
196. **Мірскі** Фама (Тамаш), адстаўны Французскіх войск капітан. Апраўданы.
197. **Мірскі** Геранімм Станіслававіч, м. Вайткова або Казачова. Няпоўнагадовы. Падпіска на вернасць імператару. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
198. **Мірскі** Сцяпан Фадзеевіч, м. Барсучына. Вызвалены.
199. **Мірскі** Ігнацы Фадзеевіч, м. Вайткова або Казакова. Адпушчаны на парукі.
200. **Мірскі** Станіслаў Фадзеевіч, м. Барсучына. Збег за мяжу. Маёмасць пакінута сям'і з умовай не перадаваць Станіславу.
201. **Мірскі** Фердынанд Ігнатавіч. Збег за мяжу. Маёнтак пакінуты бацькам з умовай ніч. не слаць сыну.
202. **Місевіч** Філіп Ануфрыевіч, селянін з в. Станюлі пана Маеўскага. Узяты ў мястэчку Бабарышы, даставлены ў Вільню.
203. **Міхайлоўскі** Кастан Вікенцевіч. Збіраў фураж для паўстанцаў. Вызвалены.
204. **Міхайлоўскі** Павел Казіміравіч, м. Касарэўшчына (Караўшчына). Член Камітэту паўстанцаў. Падпіска аб вернасці імператару. Пад нагляд паліцыі.
205. **Міхневіч** Аляксандр. Узяты ў палон пад Псковам у 1832 г.
206. **Норніцкі** Іван Антонавіч. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
207. **Адынец** Антоні з Глыбокага. Вызвалены.
208. Акушка Іосіф Мікалаевіч, м. Канстанцінава. Вызвалены.
209. **Акушка** з Барыл. Пяхота.
210. **Астроўскі.** Працаваў у канцылярыі Камітэту паўстанцаў. Вызвалены.
211. **Падбіпента** Рамуальд Антонавіч, м. Пліса. Былы Дзісненскі маршалак. Генерал. Узначаліў Камітэт паўстанцаў.
212. **Падляк** Сімон, селянін Івана Шырыпа (м. Падольшчына). Зьбег у Прусію. Вярнуўся. Выявіў паслухмянасць, віну даравалі.
213. **Палевіч** з .Чэраса пана Струпінскага.
214. **Панчоўскі** Аляксандр Іосіфавіч, унтэр-афіцэр. Збег за мяжу. Маёмасць канфіскавана.
215. **Папралецкі** Якуб Збег у Прусію. Вярнуўся.
216. **Параф'яновіч** Антоні, селянін. Паранены трапіў у палон. Вызвалены.
217. **Парфіяновіч** Іван Якаўлевіч, шляхціц, вучыў дзяцей пана Сальмановіча. Узяты ў палон пад Коўна. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1941 г.
218. **Парцянка** Павел Андрэевіч. Вызвалены.
219. **Патрыкоўскі** Антоні Іосіфавіч, м. Мыюта. Вызвалены.
220. **Патрыкоўскі** Казімір Антонавіч, м. Мыюта або Старынка. Прысяга на вернасць, нагляд паліцыі.
221. **Пілецкі** Іосіф Фадзеевіч. Сын дазорца. Пяхота. Вызвалены.
222. **Плешчанскі.**
223. **Плятэрова** Апалінарыя, м. Лужкі. У яе палацы размясціўся Камітэт паўстанцаў.
224. **Плятэр** Уладзіслаў, м. Лужкі. Сакратар Камітэту.
225. **Плятэр** Лук'ян Фадзеевіч. Юнкер. Збег за мяжу. Маёнтак бацькоў пад забаронай.
226. **Плятэр** Фердынанд Фадзеевіч. Юнкер. Збег за мяжу Маёнтак бацькоў секвестраваны.
227. **Плятэр** Ігнацы м. Бяльмонты.
228. **Плятэры**, м. Вянужы Дзісненскага пав.
229. **Плятэр** Ян, вайсковец. Сасланы ў Тыфліс.
230. **Пачонка** Парфен. Выконваў абавязкі валаснога галавы казённага м. Залессе. Вызвалены.
231. **Пржэсецкі** Антоні Іосіфавіч, юнкер. Збег за мяжу. Секвестр маёнтка.
232. **Прэсмыцкі**, м. Валкалата. Пяхота паўстанцаў.
233. **Прохаў** Іван, з Воласава. Збег у Амерыку.
234. **Пузына** Тамаш, ксёндз. Сасланы ў Цвер.
235. **Пэнтгоўскі** Аляксандр Іосіфавіч. Юнкер. Збег за мяжу. Канфіскацыя маёмасці.
236. **Пятроўскі**, сын з Мінеты (Мнюты). Палкоўнік на кані.
237. **Рагоўскі** Антоні. Шэф штабу Брахоцкага. Пасаджаны ў турму.
238. **Радзевіч** Станіслаў Гедзеонавіч, м. Буда. Прынесена вернасць імператару. Нагляд паліцыі.
239. **Раманоўскі** Міхаіл. Затрыманы ў 1832 г. пад Псковам з раздробленымі абедзвюмі нагамі.
240. **Раўкевіч** Фелікс Вікенцевіч. Шараговец Эстляндскага палка. Збег за мяжу. Канфіскацыя м.
241. **Розенфельд** Юльян, эканом маёнтка Мігановіча, даставіў у Дзісну 50 кантаністаў (апалчэнцаў). Удзел у забойстве казакоў не даказаны. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
242. **Рудоміна** Дамінік. Аддаў паўстанцам 2-х сыноў і 3-х сялян. Хаваўся ў Браслаўскім манастыры. Заключаны у цвердзь.
243. **Рудоміна** Ігнацы. З'явіўся з павіннай. Вызвалены.
244.**Рудоміна** Францішак. Разжалаваны ў жаўнеры. Сасланы ў Казань.
245. **Русецкі** Іосіф Міхайлавіч, м. Лапунты. Вырабіў больш 1000 патронаў.
246. **Руткоўскі** Данат, у манастве Ігнацы, клерк Глыбоцкага кармеліцкага манастыра.
247. **Руткоўскі** Ян Разжалаваны ў жаўнеры, сасланы ў Арэнбург.
248. **Руткоўскі.** Падпаручнік. Сасланы ў Яранск.
249. **Рупінскі** Аляксандр Феліксавіч, курсант школы падхарунжых. (1810-1900 гг.) Аўтар бел-чырвонабелага штандара. Эмігрант у Францыю . Канфіскацыя.
250. **Рэшковіч** Фелікс Вікенцевіч. Юнкер.
251. **Сабанскі** Людвіг, б. маршал. з Браслаўшчыны. Сасланы ў Пермь.
252. **Савіцкі** Дамінік (Даніэль) Бенядзіктавіч. Селянін з в. Патупы пана Буйніцкага. Збег у Прусію. Вярнуўся. Памілаваны.
253. **Садоўскі** Іван, з Плісы. Збег у ЗША. Канфіскацыя.
254. **Сакалоўскі** Крысціян Ігнатавіч. Адстаўны капітан. Злачынства 3-га разраду. Памілаваны.
255. **Салагуб** Мацвей Аляксандравіч. Унтэр-афіцэр. Збег за мяжу. Прым. злавіць. Аддаць пад суд.
256. **Сальмановіч** Антоні. Вызвалены 3-пад варты.
257. **Самуйла** Акім Бернардавіч. Збег у ЗША. Фальварак Уліна з 2 душамі мужчын пакінуты бацькам.
258. **Самуйла** з Дальца. Палкоўнік на кані.
259. **Сафрановіч** Базыль, селянін. Узяты пад Псковам.
260. **Сежынскі** Станіслаў. Заключаны ў Менскую турму.
261. **Скабалановіч** Аляксандр, уніяцкі святар з Глыбокага. Капелан вайсковы. Шпіён паўстанцаў. Накіраваны на радзгляд Духоўнага начальства.
262. **Скорык**, з. Заварта. Пяхота.
263. **Скржыдлеўскі** Вікенці Станіслававіч. Возны Дзісненскага павету. Падпіска аб нявыездзе. Пазбаўлены правоў удзелу ў выбарах.
264. **Срок** Мацвей, з Варонкі. Ураджэнец Менскай губ. Збег за мяжу, у ЗША. Канфіскацыя маёмасці.
265. **Станілевіч 1**, з Латылі, пяхота.
266. **Станілевіч 2**, з Латылі, пяхота.
267. **Сташэўскі** Фартунат Міхайлавіч, дваранін Віленскай губерні. Жыў у Дзісне. Пад нагляд паліцыі.
268. **Струпінскі** Іосіф Іванавіч, м. Чэрасы. Унтэр-афіцэр. Збег за мяжу. Секвестр маёнтка.
269. **Сумашэўскі** Іосіф Францавіч, селянін з в. Саковіч. Злоўлены ў Ковенскай губ. Накіраваны ў распараджэнне губернатара.
270. **Сухавецкі** Іван, селянін скарбовага м. Густаты.
271. **Сушчынскі**, дваранін Барысаўскага павету. Арганізатар паўстання ў Дзісненскім павеце. Сасланы ў Сібір.
272. **Савіль** Ян, в. Юдыцына. Узяты ў палон пад Псковам.
273. **Святагор** Антон Францавіч. Пісьмавадзіцель Дзісненскага спраўніка. На следстве назваў прозвішчы 104 паўстанцаў.
274. **Снядэцкі** Іосіф Андрэевіч (сын ці пляменнік рэктара Віленскага ўніверсітэта). Член Завілейскага Камітэту. Выдадзены ўладам канонікам Віктарам Завадскім. Суд у Вільні.
275. **Сяліцкі** Казімір Ануфрыевіч. Селянін з Навалакі. Збег у Амерыку. Забаронена вяртанне ў Расію. Маёмасць пакінута сям'і.
276. **Сямашка** Міхаіл Станіслававіч, м. Ляхоўшчына. З Прусіі праз Урад прыслаў просьбу аб дараванні. Рашэнне: Другі разрад злачынства. Ягоную палову маёнтка канфіскаваць. Калі вернецца – аддаць пад суд.
277. **Сямашка** Іосіф Станіслававіч, м. Ляхаўшчына. Падпіска аб вернасці імператару. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
278. **Тамашэўскі**, святар. Пошук яго ў павеце не даў выніку.
279. **Татур** Адам, ксёндз Лутэцкага піярскага манастыра. Член Камітэту паўстанцаў. Прысуджаны да пакарання смерцю.
280. **Татур** Вікенці. Яму дапамагалі сыны Гіляры і Дамінік – будучыя ўдзельнікі паўстання 1863 г.
281. **Твардаманскі** Станіслаў Іосіфавіч. Аднесены да 3-га разраду злачыннасці. Пад нагляд паліцыі. Нагляд зняты ў 1841 г.
282. **Твардаманскі** Іван, служыў у Менскім губернскім межавым судзе. Удзел у баях не даказаны, аднесен да 3-га разраду. Памілаваны.
283. **Твардаманскі** Ксаверы. Дрысенскага павету. Грамадзянскі камісар Празарскскага ключа. Удзельнік захопу Лужок. Пад нагляд паліцыі.
284. **Тарчыновіч.** Уніяцкі святар. У баях не ўдзельнічаў. Вызвалены.
285. **Трухлец** Іван, па закладной уласнік маёнтка Буйніцкага.
286. **Тызенгаўз** Канстанцін (1786-1853), м. Паставы, граф. Генерал паўстанцаў. Накіраваны пад ваенны суд.
287. **Уласевіч** Антоні Міхайлавіч. Пісар. Справа ўзнята пасля закрыцця следчай камісіі, перададзена губернскаму праўленню.
288. **Уласевіч** Канстанты, вучань лужэцкага піярскай вучэльні. Падпісаў акт Канфедэрацыі. Аднесены да 3-га разраду. Даў падпіску аб вернасці імператару. Пад нагляд паліцыі.
289. **Урублеўскі** Юзаф, селянін в. Гарохава.
290. **Урублеўскі** (Врублеўскі) Фларыян. Затрыманы пад Псковам у 1832 г.
291. **Федаровіч** Бернард Гіляравіч, м. Юльяновіч. Аднесены да 3-га разраду. Падпіска аб вернасці трону. Нагляд паліцыі.
292. **Федаровіч** Філіп. Афіцэр рускага 22 палка. Сасланы ў г. Глазаў Вяцкай губерні.
293. **Федаровіч** Казімір, з Шаркаўшчыны. Пяхота. Пад нагляд паліцыі.
294. **Французовіч** Канстанцін Іосіфавіч. Няпоўнагадовы. Пісар казённага м. Густаты. Падпіска аб вернасці, нагляд паліцыі.
295. **Харэвіч** Андрэй Анціпавіч. З Карабоў.
296. **Хомскі** Аўгуст Ігнатавіч, м. Мачулішча. Паплечнік Лапацінскіх Станіслава і Людвіга. Экзаменацыйны камітэт. Збег за мяжу. Маёнтак канфіскаваны.
297. **Хомскі** Адольф Ігнатавіч (брат Аўгуста), м. Слабада і Дуліна. Член Камітэту. Збег за мяжу. Маёнткі канфіскаваныя.
298. **Храпавіцкі** Міхаіл Восіпавіч. Граф м. Празарокі. Былы маршалак губернскага межавага суда. Удзельнік вайны 1812 г. Удзельнік захопу Лужок у 1831 г. Начальнік кавалерыі. Памілаваны. Пад нагляд паліцыі.

*(Заканч на ст. 12.)*

